# Ніва


ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 43 (452) | ГОД IX | 25 КАСТРЫЧНІКА 1964 г. | ЦАНА 60 гр.


**Ашчадным сялянам пад развагу**

Ашчадна-пазыкавыя спулдзельні ўжо глыбока зрасліся з жыццём вёскі, а формы іх дзейнасці ахопліваюць усё шырэйшы круг вясковай рэчаіснасці. СОП-ы здабылі трывалы давер у сялян. Цяпер звыш 120 тысяч гаспадароў Беластоцкага ваяводства трымае свае ашчаднасці пад апекай СОП-у. **Гэтыя ашчаднасці на пачатку б.г. складалі суму 225 мільёнаў зл.** Шэсць год таму назад на сялянскіх ашчадных кніжках было аж 90 (дзевяноста) раз менш грошай.

## БАГАТЫ БЕЗ ГРОШАЙ

Пад апекай СОП-у дзейнічаюць вясковыя школьныя ашчадныя касы. Аказваецца, што вучні патрапяць весці ашчадную гаспадарку. У іх на кніжках запісана цяпер паўтара мільёна злотых. Ваяводскае кіраўніцтва СОП-у намерана яшчэ ў бягучым школьным годзе падгаварыць сваіх малых членаў, каб пачалі масава гадаваць трусоў. Звяркі гэтыя не капрызныя, ядуць абы што, вялікага ўшчэрбку гаспадарцы не наносяць, а даход з іх нядрэнны. СОП-ы спадзяюцца, што гэтае мерапрыемства павялічыць рахунак ашчаднасці.

А вось асабліва цікавая, але мала яшчэ вядомая, навінка СОП. Дагэтуль нашаму селяніну штосьці такое прыходзілася бачыць толькі ў кіно. Нейкі багацей з'яўляецца ў краме, бярэ патрэбны яму тавар, выпісвае чэк на патрэбную суму, падае прадаўцу і справа афармлена — грошай не трэба, заступае іх вартасная паперка. Такім багацеем цяпер можа прыкідвацца кожны гаспадар, які з'яўляецца членам ашчадна - пазыкавай спулдзельні і, зразумела, мае адложаныя грошы на ашчаднай кніжцы. Атрымае ён ад СОП-у чэкавую кніжачку і пры пакупках ва ўсіх спулдзельчых установах вясковага гандлю можа плаціць чэкамі. Адна засцярога: вартасць справунку павінна перавышаць 100 злотых. Выгода вялікая, бо не трэба баяцца, што згубіш грошы, або трапяць яны ў клейкія рукі злодзея.

Прадаўшы свае прадукты (збожжа, жывёліну, малако, яйкі) таксама не мусіш браць грошай. **Адабраўшы квітанцыю можаш спакойна вяртацца дамоў. Хопіць толькі ведаць, што тваё конта без грашовага абароту павялічылася ў СОП-е на толькі то тысяч злотых і надалей прадаўшчыкам замест грошай соваць вартасныя чэкі.**

(Працяг на стар. 4)

## ПАДГЛЕДЖВАЮЦЬ

Прадукцыйная спулдзельня ў Дарожках надае тон жыццю вёскі. Вядзе яна вялікую і разнастайную гаспадарку, якая накіравана ў першую чаргу на таваровую прадукцыю. Пад назваю таваровай прадукцыі мы разумеем кантрактацыю палявых культур і жывёлагадоўлю разлічаную на шырокі збыт.

Кантрактавана дзесяць гектараў бульбы. Атрымана ўраджай у сярэднім па 223 цэнтнеры з аднаго гектара. Калі ласка, няхай хто з індывідуальных гаспадароў пахваліцца гэтакім ураджаем бульбы! Шмат закантрактавана цукровых буракоў, якіх ураджай — як правіла ніколі не меншы ад 300—320 цэнтнераў з аднаго гектара. Кантрактацыя дае вялікія даходы і гэта ўжо зразумелі многія індывідуальныя гаспадары.

Шпаркімі тэмпамі развіваецца спулдзельчая жывёлагадоўля. У сучасны момант ёсць каля сто штук кароў і восемдзесят штук свіней. Словам, вялікая чарада прыбытку.

Мікалай Трахімчук, старшыня праўлення прадукцыйнай спулдзельні ў Дарожках, выявіў мне планы далейшага развіцця гадоўлі ў бліжэйшыя гады. І так, у суседняй вёсцы Чарэўкі стаяць нявыкарыстанымі будынкі былой чарэўкаўскай прадукцыйнай спулдзельні. Апякуецца імі мясная цэнтраля. Адну абору наймае да-

(Працяг на стар. 5)



У дзіцячым садзе.

## ЯСНЫ [illegible] НАРВЫ

Нарадзілася Нарва ў XIV стагоддзі ў сэрцы Беласточчыны, зямлі багатай цудоўнымі палацамі і манастырамі, нэндзай вясковых людзей, адсталасцю, бездарожжам. У перыяд санацыйнай улады Нарва з маляўнічага мястэчка пачала пераўтварацца ў адну з тысяч маленькіх мясцін, дзе не было хлеба, працы, а была вегетацыя ў бядзе і безнадзейнасці.

...Іван Граматовіч рубае дровы каля свайго дома і ўспамінае тыя, не так ужо далёкія, гады: «Адышлі мы ад таго часу далёка, столькі ў нас змянілася, што, здаецца, дзесяткі год прайшло.»

Двое дзяцей гуляюць у хаце. З радасцю глядзіць на іх Граматовіч. Дзве дачкі закончылі сярэднія школы. Адна працуе настаўніцай у Нарве, другая — у Міністэрстве замежнага гандлю ў Варшаве. Сын Сяргей закончыў Варшаўскую палітэхніку, інжынер, працуе ў фабрыцы асабовых самаходаў на Жэрані.

У Нарве ёсць грамадская бібліятэка. Бібліятэкарша добра ведае сваіх чытачоў, хоць іх з адной толькі Нарвы 326. Умее параіць, якую кніжку выбраць. А з чаго выбіраць таксама ёсць. 4600 тамоў плюс выменныя камплекты з павятовай бібліятэкі гэта не мала для грамады, якая да вайны не мела доступу да кніжкі. 14 бібліятэчных пунктаў аплялі цяпер грамаду павуціннай сеткай збудаванай з кніжак.

Пільнымі чытачамі робяцца людзі, якія яшчэ нядаўна не ўмелі пісаць і чытаць. Барташэвіч, хоць «пяты крыжык» стукнуў, запісалася ў бібліятэку. Найперш чытала дзецям казкі, а цяпер ужо бярэ раманы Жаромскага.

«Колькі ў нас змянілася, — кажа Агата Смактуновіч, малазямельная сялянка з Нарвы. — Як інакш цяпер жывецца. Трэба толькі ха-

(Працяг на стар. 4)



Старшыня праўлення прадукцыйнай спулдзельні ў Дарожках тав. Трахімчук ([illegible]ава) і аграном тав. Шпіна плануюць сеяць тут бульбу гатунку «Эліта».

## Весткі з беларускага ліцэя ў Бельску

Навучэнцы беларускага ліцэя ў Бельску прышлі з дапамогай у працы для ПГР Вандалін. 110 асоб выязджала на капанне бульбы.

*

Вялікі пляц ліцэя ўжо абгароджаны драцяной сеткай. Каштавала гэта 80 тыс. зл. 30 тыс. прызначыў інспектарат. Рэшту пакрыў бацькоўскі камітэт са свайго фонду. Пры нефаховых работах працавалі члены бацькоўскага камітэта і школьная моладзь. Арганізатарам агароджы быў Іван Свентахоўскі — старшыня бацькоўскага камітэта. Ён ездзіў да бацькоў вучняў, праводзіў з імі гутаркі, мабілізаваў іх да грамадскай працы на карысць школы.

М. Х.




С. Яновіч: ТРЭБА ТОЛЬКІ МАГЧЫ.

Р. Паўлюк: ЧАРАДЗЕЙСКАЕ ШКЕЛЬЦА.

М. Хмялеўскі: ПАРТАЦКІЯ РАМОНТЫ.

